# «РАСКАЖЫЦЕ, ШТО ТАКОЕ НАРОДНЫ ТЭАТР?»

## Самадзейнасць? Так. Але на прафесіянальным узроўні

Калі Баранавіцкі народны тэатр паказваў свой спектакль для рабочых і служачых ільнозавода ў пасёлку Гарадзея, у антракце за кулісы прыйшоў сакратар партыйнай арганізацыі завода і папрасіў: «Калі ласка, раскажыце нам, што такое народны тэатр?»

Нягледзячы на тое, што прайшло ўжо больш двух год з дня арганізацыі першых народных тэатраў у нашай рэспубліцы, з падобнымі пытаннямі да нас звяртаюцца гледачы многіх населеных пунктаў, дзе мы выступаем. І гэта зусім заканамерна, таму што мала апублікаваць пастанову аб арганізацыі народных тэатраў, неабходна яшчэ прапагандаваць іх творчую дзейнасць. Між тым, не ўсе кіраўнікі грамадскіх арганізацый усвядомілі значэнне народных тэатраў. Часта самадзейныя артысты сустракаюцца з абыякавасцю да сваіх патрэб.

Як да вялікага свята, рыхтуецца тэатр да здачы новага спектакля. Загадзя рассылаюцца запрашальныя білеты і ў першую чаргу — работнікам гарвыканкома, гаркома партыі і рэдакцыі мясцовай газеты. І якое ж горкае расчараванне, калі сярод членаў прыёмнай камісіі не аказваецца ні аднаго прадстаўніка ад мясцовых кіруючых арганізацый.

Удзельнікі нашага тэатра з пачуццём велізарнай зайздрасці чыталі ў артыкуле рэжысёра І. Сакольскага (Пінск) тое, што работнікі Пінскага гаркома і гарвыканкома—першыя сябры народнага тэатра. Яны прысутнічаюць не толькі на спектаклях, але нават і на рэпетыцыях. У Баранавічах работнікі гарвыканкома, аддзела прапаганды і агітацыі гаркома партыі — рэдкія госці на нашых прэм'ерах, не гаворачы ўжо аб радавых спектаклях.

У чэрвені тэатр здаваў спектакль па п'есе М. Пагодзіна «Кветкі жывыя». Зусім зразумелая тая ўрачыстасць, хваляванне і трывога, якія панавалі за кулісамі ў дзень здачы прэм'еры. Тэатр трымаў адказны. цяжкі экзамен— паказваў твор з вобразам Ул. І. Леніна. Да пачатку спектакля зала была перапоўнена гледачамі. Сярод членаў камісіі — начальнік абласнога ўпраўлення культуры, прадстаўнік Міністэрства культуры БССР, прадстаўнікі Беларускага тэатральнага таварыства, абласнога і рэспубліканскага дамоў народнай творчасці. А вось з кіруючых работнікаў горада—абсалютна нікога. Іх, мабыць, не хвалявала, як народны тэатр справіўся са складанай задачай. Нават з простай цікаўнасці ніхто з іх не прыйшоў паглядзець на вынікі працы людзей, якія свой свабодны ад работы час аддаюць справе камуністычнага выхавання насельніцтва. Такая абыякавасць да лёсу тэатра пакідае горкую крыўду.

Адсюль вынікаюць і адносіны кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый горада, дзе працуюць удзельнікі тэатра. На любым прадпрыемстве могуць лёгка прадаставіць адпачынак без захавання заработнай платы адразу дзесятку і больш чалавек або вызваліць ад работы для ўдзелу ў спартыўных спаборніцтвах цэлую групу рабочых. Але вызваліць на адзін дзень аднаго ўдзельніка народнага тэатра для выступлення ў спектаклі або перавесці яго з вячэрняй змены на дзённую — для гэтага іншы раз бывае мала дакумента з подпісам старшыні гарвыканкома ці сакратара гаркома партыі!

Часта нават пры наяўнасці такога дакумента ўдзельніка спектакля аслабаняюць ад работы з папрокамі. Каб пазбавіцца ад такіх незаслужаных папрокаў і не псаваць адносін з начальствам, асобныя ўдзельнікі часам самі ўладкоўваюць пытанне аб аслабаненні шляхам камерцыйных «пагадненняў» са сваімі зменшчыкамі.

Каб узняць ролю і аўтарытэт народных тэатраў, трэба і нашай прэсе, радыё, тэлебачанню ўдзяляць належную ўвагу іх рабоце. Чаму б Беларускаму радыё, скажам, не запланаваць цыкл перадач аб народным тэатры, выдзеліўшы для гэтага пэўны дзень і час (можа, адзін раз у месяц). Рэспубліканскія газеты, а тым больш абласныя і мясцовыя на сваіх старонках павінны сістэматычна асвятляць працу народных тэатраў. Што ж датычыць тэлебачання, то тут велізарныя магчымасці паказу дасягненняў работы самадзейных калектываў. Але тэлебачанне мала цікавіцца арганізацыяй перадач аб народных тэатрах і на сваіх экранах паказвае часта тое, што ў яго пад рукой.

З мэтай папулярызацыі работы народных тэатраў штогод трэба праводзіць творчыя агляды на месцах, у вобласці і рэспубліцы. Гэта пазнаёміць шырокія масы грамадскасці з мастацтвам народных тэатраў і павялічыць іх адказнасць за сваю работу. Рэжысёрам трэба падумаць аб арганізацыі абменных спектакляў паміж асобнымі тэатральнымі калектывамі і ўзаемнага абмеркавання прэм'ер. Сапраўды, народныя тэатры ведаюць адзін аб другім вельмі мала. За два гады свайго існавання калектывы Пінскага і нашага тэатраў ні разу не абмяняліся спектаклямі. Няўжо няма чаму ім павучыцца адзін у аднаго? Удзельнікі нашага тэатра даўно жадаюць пабываць у пінчан, але рэжысёры М. Счансновіч і І. Сакольскі чамусьці марудзяць, а абласное ўпраўленне культуры не здагадаецца падказаць ім аб мэтазгоднасці такой творчай паездкі

А нашы агляды! Яны павінны быць не толькі дэманстрацыяй дасягненняў у галіне самадзейнага мастацтва, але і своеасаблівай школай па абмену вопытам паміж тэатрамі і асобнымі ўдзельнікамі. Рэспубліканскі агляд народных тэатраў, што адбыўся ў мінулым годзе, па сваёй арганізацыі выключаў усялякую магчымасць для абмену вопытам. Кожны тэатр выклікаўся дакладна ў дзень паказу спектакля, а пасля паказу і абмеркавання яго тэрмінова і даволі бесцырымонна адпраўлялі дамоў. Група ўдзельнікаў нашага тэатра, уладкаваўшы пытанне з работай, вырашыла застацца, каб паглядзець некалькі спектакляў іншых народных тэатраў. Але бухгалтэрыя Міністэрства культуры БССР катэгарычна адмовілася выдаць на рукі нам грошы на праезд назад, прапануючы неадкладна ехаць на прадастаўленым міністэрствам аўтобусе. Гэта выклікала пратэст сярод артыстаў, і толькі пры дапамозе работнікаў рэспубліканскага Дома народнай творчасці справа была ўладжана. На жаль, застацца ўсё ж не давялося, таму што ў гасцініцы нашы месцы былі ўжо заняты, а рэчы выстаўлены ў кабінет адміністратара.

Такая арганізацыя аглядаў не дасягае патрэбнай мэты і выклікае нездавальненне сярод удзельнікаў, адбіваецца на іх творчай працы і дысцыпліне.

З вялікімі цяжкасцямі народныя тэатры сустракаюцца пры правядзенні выязных спектакляў. Гэтыя спектаклі, як правіла, плануюцца ў суботу і нядзелю, таму што выезды ў іншыя дні звязаны з вызваленнем людзей ад працы. А ў святочныя дні раённыя і сельскія Дамы культуры не згаджаюцца прадастаўляць памяшканне — у гэтыя дні там па графіку кіно. Абласное ўпраўленне культуры, пры зацвярджэнні графіка паказу фільмаў, павінна прадугледзець работу народных тэатраў і абавязаць дырэктараў дамоў культуры прымаць спектаклі па суботах і нядзелях хоць бы адзін раз у два месяцы.

Надзвычай вялікае значэнне ў нас набывае дакладнае планаванне рэпетыцый. Самадзейны акцёр ідзе ў тэатр па закліку сэрца, ён ахвяроўвае дзеля гэтага свой адпачынак. Але рэжысёр ні ў якім разе не мае права абыякава ставіцца да творчага энтузіязму ўдзельнікаў і забываць аб тым, што, акрамя тэатра, у кожнага з іх ёсць яшчэ асноўная работа, сям'я. Нельга ўсіх удзельнікаў выклікаць на рэпетыцыі штодзень, бо пры гэтым могуць быць непазбежныя зрывы рэпетыцый. Дысцыпліна, максімальнае ўшчыльненне рэпетыцыйнага часу, старанная падрыхтоўка рэжысёра да сустрэч з самадзейнымі артыстамі— аснова творчай работы. Кожны ўдзельнік можа быць заняты ў рэпетыцыі не больш трох разоў у тыдзень (не лічачы апошні тыдзень перад прэм'ерай), тады як сам рэжысёр павінен працаваць над спектаклем кожны дзень.

Цяпер аб званні «артыст народнага тэатра». Колькасць гэтых званняў у тым або іншым тэатры часам залежыць не столькі ад здольнасцей тых, каму іх прысвойваюць, колькі ад паваротлівасці рэжысёра. Прысваенне звання павінна быць актам вялікай урачыстасці як для ўдзельніка, так і для ўсяго калектыву. Магчыма, патрэбна прысуджэнне звання выносіць на абмеркаванне грамадскасці горада праз мясцовы і абласны друк і на канферэнцыях гледачоў. Не дрэнна было б, каб пастанова аб прысваенні звання таму ці іншаму ўдзельніку публікавалася на старонках абласной газеты. Або ці так ужо складана змясціць у газеце партрэт новага артыста народнага тэатра? Добра было б, каб пасведчанне артыста народнага тэатра давала права на бясплатнае наведанне кіно, цырка, канцэрта. Па ўсёй рэспубліцы каля 150 артыстаў народнага тэатра, а ў нашым горадзе іх усяго толькі 8. Думаю, што гэта не адаб'ецца на выкананні фінансавага плана. А затое якая гэта цудоўная форма заахвочвання!

Самадзейны артыст мае патрэбу ў штодзённай падтрымцы і практычнай дапамозе з боку акцёраў прафесіянальнага тэатра. На жаль, многія акцёры - прафесіяналы ставяцца да творчасці самадзейных артыстаў не сур'ёзна. У маі ў нашым горадзе гастраліраваў Брэсцкі драматычны тэатр. На працягу дзесяці дзён ніхто з акцёраў і рэжысёраў брэсцкага тэатра не пабываў на рэпетыцыях і спектаклях нашага тэатра. Артыст гэтага тэатра тав. Вятошкін, які выпадкова трапіў на спектакль і ў антракце зайшоў у грыміровачную пагутарыць з удзельнікамі паказу, не ўяўляў, колькі радасці прынёс яго выпадковы візіт самадзейным артыстам. А прыезд рэжысёра Л. Мазалеўскай на рэпетыцыю п'есы «Без віны вінаватыя» быў вялікай падзеяй у нашым тэатры. Трэба было бачыць як прагна слухалі ўдзельнікі спектакля кожнае слова вопытнага рэжысёра. Або прыезд рэжысёра Б. Дакутовіча на спектакль «Кветкі жывыя»: чатыры гадзіны рэжысёр аналізаваў спектакль і ўвесь час, затаіўшы дыханне, слухалі яго ўдзельнікі. Мне здаецца, што гэта самая эфектыўная форма вучобы ўдзельнікаў народнага тэатра. І трэба, каб гэта былі не выпадковыя рэдкія сустрэчы, а сістэматычная планавая шэфская дапамога. Амаль усе народныя тэатры маюць свой аўтатранспарт, таму не дрэнна было б падумаць аб арганізацыі выездаў на рэпетыцыі і спектаклі прафесіянальных тэатраў.

Я прапаную ў саветы народных тэатраў увесці прадстаўнікоў ад прафесіянальнага тэатра, каб яны, прысутнічаючы на пасяджэннях саветаў, унікалі ва ўсе пытанні. Праз такіх прадстаўнікоў будзе ажыццяўляцца жывая сувязь з калектывамі тэатраў-шэфаў. Трэба сказаць, што камісіі, якія прыязджаюць прымаць спектакль, па свайму складу і кваліфікацыі не заўсёды адпавядаюць прызначэнню і таму часта прыносяць удзельнікам горкае расчараванне. Звычайна госці прыязджаюць перад пачаткам (а іншы раз і перад другім актам). Абмяркоўваючы спектакль, паказваюць адзін аднаму на гадзіннік і спяшаюцца «закругліцца» да начнога поезда. Не прыйшоўшы загадзя да агульнай думкі, з-за адсутнасці часу, члены камісіі часта разгортваюць палеміку паміж сабой. Так было пры абмеркаванні спектакля «Кветкі жывыя». Камісія павінна не толькі правільна ацаніць работу, але і падказаць, як выправіць памылкі, дэфекты. Калі ж члены камісіі самі не прыйшлі да адзінай думкі, то такое абмеркаванне, акрамя шкоды, нічога прынесці не можа.

Пры арганізацыі народнага тэатра неабходна ўлічваць наяўнасць базы для работы, я маю на ўвазе памяшканне і крыніцы прыбытку.

Памяшканне Баранавіцкага дома культуры не прыстасавана для народнага тэатра. Былы склад, ператвораны ў часовы тэатр, даўно знаходзіцца ў аварыйным стане. Жыхары горада неахвотна наведваюць яго. Зімой на сцэне самадзейныя артысты рэпеціруюць у паліто, у рукавіцах і галаўных уборах.

Гарадскі Дом культуры не можа фінансаваць народны тэатр. Такім чынам, ставіцца пад пагрозу выпуск новых спектакляў, а значыць, і ўся работа тэатра. Аб якім жа тэатры «адчыненых дзвярэй» можна гаварыць пры такім становішчы? Удзельнікі нашага тэатра з вялікай радасцю прынялі заяву І. Сакольскага аб тым, што ў хуткім часе Пінскі народны тэатр будзе «тэатрам адчыненых дзвярэй». Цікава ведаць, колькі народных тэатраў у нашай рэспубліцы змогуць падтрымаць добры пачын пінчан?

**А. АБРАШКЕВІЧ,**
**мастацкі кіраўнік Баранавіцкага гарадскога Дома культуры, артыстка народнага тэатра.**

**Наступнае слова ў абмеркаванні праблем развіцця тэатральнай самадзейнасці атрымаюць намеснік дырэктара рэспубліканскага Дома народнай творчасці Ул. Гарачун і рэжысёр-метадыст С. Гурыч.**

**Гродзенскі абласны бібліятэчны калектар сёлета пасылае сельскім бібліятэкам на сотні тысяч рублёў мастацкай, грамадска-палітычнай і сельскагаспадарчай літаратуры.**

**Работнікі бібкалектара Н. ПУШКЕВІЧ (злева) і Е. СІЦЬКО рыхтуюць да адпраўкі брашуры з тэкстам праекта Праграмы КПСС.**

Фота **Ч. Мезіна.** (БЕЛТА).

# ШКОЛА ДЛЯ ПІСЬМЕННІКАЎ І ЧЫТАЧОЎ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

новай Праграмы нашай партыі, у прыватнасці тых яго радкоў, дзе гаворыцца пра павышэнне выхаваўчай ролі літаратуры і мастацтва:

«Савецкая літаратура і мастацтва, прасякнутыя аптымізмам і жыццесцвярджальнымі камуністычнымі ідэямі, адыгрываюць вялікую ідэйна-выхаваўчую ролю, развіваюць у савецкім чалавеку якасці будаўніка новага свету. Яны закліканы служыць крыніцай радасці і натхнення для мільёнаў людзей, выражаць іх волю, пачуцці і думкі, служыць сродкам іх ідэйнага ўзбагачэння і маральнага выхавання.

Галоўная лінія ў развіцці літаратуры і мастацтва — умацаванне сувязей з жыццём народа, праўдзівае і высокамастацкае адлюстраванне багацця і мнагастайнасці сацыялістычнай рэчаіснасці, натхнёны і яркі паказ новага, сапраўды камуністычнага, і выкрыццё ўсяго, таго, што перашкаджае руху грамадства наперад».

У гэтых словах — ідэйная праграма і нашай літаратурнай крытыкі, галоўны напрамак яе творчых пошукаў. Крытыка нашых дзён не мысліцца без глыбокай, гарачай зацікаўленасці новымі поспехамі савецкай літаратуры, павышэннем яе баявога духу і мастацкага майстэрства. І якімі б тэматычна рознымі ні былі інтарэсы кожнага крытыка паасобку, уся работа «крытычнага цэха» павінна быць прасякнута высокай мэтанакіраванасцю, імкненнем дапамагчы пісьменнікам ствараць мастацкія каштоўнасці, вартыя нашага вялікага часу.

Відавочна, што ў цэнтры ўвагі крытыкі павінны знаходзіцца праблемы асваення літаратурай сучаснага жыццёвага матэрыялу. Іменна тут у першую чаргу пісьменнікі чакаюць ад крытыкаў разумнага слова, дзелавой парады. Але ці апраўдваюць крытыкі іх надзеі? На першы погляд няма падстаў абвінавачваць крытыку ў тым, што яна староніцца гэтых праблем. Усе творы на сучасную тэму знаходзяць у нас пэўную ацэнку. Можна было б прывесці прыклады грунтоўнага, кваліфікаванага разгляду асобных твораў. З'яўляюцца час ад часу і выступленні абагульняючага характару, калі робіцца спроба разабрацца ў здабытках прозы, паэзіі, драматургіі на сучасную тэму. Але ўсё гэта мае пакуль што выпадковы характар. Увогуле ж тут пераважаюць рэцэнзіі, якія нярэдка не выходзяць за рамкі каментатарства, па большай меры — аналізуюць твор у межах аўтарскай задумы. А патрабуецца ад крытыкі філасофскае асэнсаванне новых з'яў і фактаў рэчаіснасці, удумлівы аналіз літаратурнага працэсу з пазіцыі жыцця, шырокі, канцэптуальны погляд на рэчаіснасць і яе адлюстраванне сродкамі мастацтва. Гэтую вышыню нашай крытыцы яшчэ належыць узяць.

У рускай крытыцы сёння ідуць гарачыя дыскусіі па такіх кардынальных пытаннях сучаснай літаратуры, як шляхі і сродкі раскрыцця новага жыццёвага зместу, характар галоўнага героя сучаснасці, гуманізм савецкай літаратуры, сутнасць наватарства ў мастацтве, шляхі развіцця сучаснага рамана, паэзія і новая рэчаіснасць і г. д. А што ў нас? Толькі асобныя выпадковыя выступленні друку гавораць пра тое, што гэтыя праблемы хвалююць і беларускіх пісьменнікаў. Хіба гэта не сведчанне адставання крытыкі ад жыцця?

Секцыя крытыкі Саюза пісьменнікаў павінна ўрэшце паклапаціцца аб арганізацыі вусных дыскусій на злабадзённыя тэмы, запрашаючы да ўдзелу ў іх не толькі крытыкаў і літаратуразнаўцаў, але і празаікаў, паэтаў, драматургаў. Час ужо дабіцца, каб размовы аб неабходнасці творчых сустрэч у саюзе перасталі быць пустымі размовамі.

Наша літаратура знаходзіцца ў стане напружаных творчых пошукаў. Творчасць многіх пісьменнікаў адрозніваецца ўзмоцненым імкненнем да адкрыцця новых мастацкіх сродкаў і прыёмаў. З гэтых пазіцый падвяргаецца крытычнаму асэнсаванню вопыт папярэдніх этапаў літаратурнага развіцця. Гэта заканамерны працэс, які адпавядае духу нашага часу. Хто, як не крытык, павінен выступіць тут добрым дарадчыкам пісьменніка, падтрымаць сапраўды наватарскае і засцерагчы ад памылковых поглядаў, ад моды. Асаблівы клопат павінен быць пра маладых аўтараў, бо некаторым з іх здаецца, быццам бы усё, што адбывалася ў мастацтве да іх, непрымальна ў нашы дні. Між іншым, знаходзяцца і крытыкі, таксама галоўным чынам з маладых, якія спрошчана вырашаюць праблему наватарства, з вучоным выглядам спрабуюць давесці, што, напрыклад, стыль мастацкага мыслення, паэтычны слоўнік і іншыя сродкі мастацкай выразнасці, уласцівыя Якубу Коласу, устарэлі. Сёння, маўляў, трэба пісаць больш складана, сучасны чытач вельмі разумны і патрабуе толькі складаных асацыяцый і такіх метафар, каб аж мазгі трашчалі пры іх расшыфроўцы.

Праблема наватарства набывае ў нашы дні асаблівую вастрыню. Абмеркаванне яе неабходна не толькі ў інтарэсах пісьменнікаў, але і ў інтарэсах чытачоў. Гаворка ідзе пра выхаванне высокага эстэтычнага густу.

Варта падкрэсліць і такое патрабаванне часу да нашай крытыкі. Сёння, больш чым калі-небудзь, немагчыма па-сапраўднаму глыбока раскрыць працэсы, якія адбываюцца ў нацыянальнай літаратуры, без уліку яе шырокіх сувязей з літаратурамі іншых братніх народаў краіны. Адзінства літаратурнага жыцця — з'ява, якая вымагае ад крытыкі рашучага пашырэння дыяпазону даследаванняў. Эстэтыку сацыялістычнага рэалізму ўзбагачаюць лепшыя творы ўсіх нацыянальных літаратур. Задача заключаецца ў тым, каб выразна паказаць аблічча сучаснай беларускай літаратуры з гэтага пункту гледжання. Тым больш, што савецкае літаратуразнаўства пачынае вялікую і адказную працу — прыступае да стварэння ўсеагульнай гісторыі савецкай шматнацыянальнай літаратуры.

Беларуская проза, паэзія і драматургія шырока выйшлі на ўсесаюзную арэну. Яны гучаць на мовах многіх братніх народаў краіны. Кнігу за кнігай выдаюць празаікі і паэты ў выдавецтвах Масквы і Ленінграда. А вось выступленні нашых крытыкаў з усесаюзнай трыбуны — надзвычай рэдкая з'ява. Гэтым самым мы не толькі стрымліваем справу папулярызацыі беларускай літаратуры, — абмяжоўваецца база, на якой вырашаюцца надзённыя праблемы савецкай эстэтыкі.

Каб быць настаўнікам літаратараў і выхавальнікам мастацкіх густаў чытача, крытык павінен валодаць адпаведнымі якасцямі. Уяўная лёгкасць яго прафесіі асабліва поўна выкрыла сябе ў нашы дні, калі наша крытыка лепшымі сваімі здабыткамі ўзнялася на вышыню сапраўднай навукі аб літаратуры.

Веданне жыцця, высокі мастацкі густ, уменне меркаваць аб мастацтве па яго законах — абавязковыя ўмовы крытычнай творчасці. Не сакрэт, што многія бяруць на сябе ролю крытыка без дастатковых на тое падстаў. А таму і з'яўляюцца ў друку выступленні, з якіх самае лепшае можна даведацца, аб чым ідзе гутарка ў тым ці іншым творы. Калі ж аўтар спрабуе разабрацца ў тканіне твора больш глыбока, атрымліваецца нешта няўцямнае і крыўднае для пісьменніка.

Задачы барацьбы за няспыннае павышэнне мастацкага майстэрства літаратуры патрабуюць ад крытыкі, каб яна была прынцыповай, непрымірымай да недахопаў, рашуча змагалася з халтурай і пошласцю. Хочацца асобна падкрэсліць гэта, бо часам добразычлівасць і чуласць, якія неабходны пры ацэнцы працы пісьменніка, блытаюць з паблажлівасцю і «ўсеяднасцю». Яшчэ той-сёй у нас прытрымліваецца думкі, быццам асноўная справа крытыкі — раскрываць змест мастацкага твора, пераводзіць яго з мовы вобразаў на мову лагічных паняццяў, словам — займацца каментатарствам. Крытыку адводзіцца ў літаратурным працэсе роля, падобная да ролі Вадзіма Сіняўскага ў футболе. Глыбока памылковая думка. Месца крытыка, вядома ж, не ў хвасце паходнай калоны літаратараў, а ў яе авангардзе.

Мы павінны не дапускаць фактаў разноснай, аглобельнай крытыкі, якія часам здараюцца. Але калі ўжо гаварыць пра адхіленні ад норм, то трэба прама сказаць, што сёння нашай крытыцы больш за ўсё пагражае прымірэнцтва да слабых твораў, схільнасць да ўсхвалення ўсяго без разбору. Часам гэта выступае пад сцягам педагагічнасці, асабліва, калі гутарка ідзе пра маладых аўтараў. Нельга, маўляў, судзіць малады талент з пазіцый высокай патрабавальнасці, а то спалохаеш яго, адпужнеш ад літаратуры. Малады, маўляў, падрасце, навучыцца пісаць лепш і прыйдзе час — сам не ўключыць свае раннія рэчы ў поўны збор твораў.

А між тым такая «педагагічнасць» нараджае ў моладзі самаўпэўненасць ды галоўнае— не ідзе на карысць, а толькі шкодзіць той жа справе выхавання эстэтычных густаў у чытачоў. Шкодзіць і аўтарытэту крытыкі, бо чытач і сам здольны ў тым-сім разабрацца.

У крытыкі не павінна быць ніякіх іншых матываў пры разборы і ацэнцы твораў, акрамя аднаго — садзейнічаць імклівому росту літаратуры. «Калі гэта сапраўдная літаратурная крытыка, — гаварыў М. С. Хрушчоў у прамове на Трэцім усесаюзным з'ездзе пісьменнікаў, — то для яе сваты і браты не ўказ, яна павінна клапаціцца аб галоўным — аб ідэйнай і мастацкай вартасці літаратурнага твора. Так павінны мы паставіць справу».

Высакародныя мэты і задачы савецкай літаратуры, якая натхняецца велічнымі ідэямі камуністычнай перабудовы грамадства, пафасам рэвалюцыйнай творчасці мільённых мас. Магутнай зброяй мастацкага слова савецкія пісьменнікі ўдзельнічаюць у выхаванні новага чалавека, змагаюцца за перамогу прынцыпаў і норм камуністычнай маралі. Месца літаратурнай крытыкі — у самай кіпені гэтай барацьбы. Яна павінна стаць сапраўднай школай для пісьменнікаў і чытачоў.

# НА ПЯРЭДНІМ КРАІ

Душою беларускай паэзіі заўсёды была грамадзянская лірыка. Творы Я. Купалы, Я. Коласа, натхнёная новымі гістарычнымі павевамі паэзія «Маладняка» і, як вянец усяму папярэдняму, паэзія часоў Айчыннай вайны, народжаная нябачаным гераізмам народа. Той час даў высокія ўзоры творчай садружнасці самых розных паэтычных пакаленняў, садружнасці ўсіх нацыянальных літаратур краіны, поўна выявіў многія характэрныя адзнакі нашай многанацыянальнай літаратуры, у тым ліку і такую з іх, як адзінства ў мнагастайнасці.

Грамадзянская паэзія на пярэднім краі літаратуры і ў пасляваенны час. Гэта відаць на прыкладах творчасці П. Броўкі, М. Танка, П. Панчанкі, М. Лужаніна, Ул. Дубоўкі, Я. Пушчы, А. Званака, К. Кірэенкі, А. Вялюгіна, а таксама многіх маладых аўтараў. З развіццём нашага грамадства раскрываюцца ўсё новыя і новыя грані паэзіі. Лірыку ўзбагачае паглыблены душэўны вопыт паэтаў, іх усё большае ўменне праз унутранае, суб'ектыўнае, непаўторнае выяўляць агульнае, гістарычна заканамернае, важнае для ўсіх.

Прыклад такой грамадзянскай паэзіі — паэма П. Броўкі «Голас сэрца» — прачулае, шчырае слова аб маці, роздум уголас аб яе суровым трагічным лёсе, аб незваротных ахвярах фашызму, аб сабе, сваім часе, краіне.

Беручы пачатак у асабістым, нават біяграфічным, слова аб маці перарастае ў глыбока патрыятычны твор грамадскага гучання, у якім відаць сіла пачуцця, мараль, свядомасць, гуманізм новага, савецкага чалавека. Такія творы ідуць з самых запаветных глыбінь сэрца паэта, яны становяцца голасам сэрца народа.

Напісаная ў звычайнай манеры аўтара — проста, шчыра, усхвалявана, паэма гэтая — як бы сплаў лірызму і публіцыстычнасці. Унутраны свет лірычнага героя паказвае, як моцна і арганічна перапляліся ў думках і пачуццях перадавога савецкага чалавека асабістае і грамадскае.

Агульны дыяпазон нашай паэзіі вельмі пашырыўся з выхадам Беларусі на міжнародную арэну. У полі зроку беларускіх паэтаў цяпер не толькі свае «хатнія» справы, але ўвесь свет — будаўніцтва новага жыцця ў краінах народнай дэмакратыі, вызваленчая барацьба народаў Афрыкі і Лацінскай Амерыкі, змаганне за мір і дружбу на зямлі.

## Наш сучаснік у жыцці і ў мастацтве

Цяпер беларускі паэт, як некалі Ул. Маякоўскі, выступае паўпрэдам савецкай паэзіі за мяжой, пасланцом Савецкай дзяржавы, гаворыць з сусветным чытачом, з жыхарамі ўсёй планеты Зямля.

Людзі, дружыце
Жывыя з жывымі!
Не забывайце
Аб Хірасіме! —

усклікае П. Броўка ў вершы «З Стакгольмскага сшытка».

Значна пашырыўся і тыпаж нашай паэзіі ў апошнія гады. Побач з працаўнікамі беларускіх калгасных палёў, заводаў, культурных устаноў тут можна сустрэць імёны вучоных, дзеячоў міжнароднага вызваленчага руху — Фідэля Кастра, Патрыса Лумумбы, Жаліо-Кюры, вобразы людзей Туніса, Гвінеі, Канады.

Не адзін наш паэт пераплываў акіян і з трыбуны Асамблеі ААН чуў галасы дэлегатаў розных дзяржаў і народаў, глядзеў на свет і на сваю бацькаўшчыну з тых шырот, з якіх не маглі глядзець паэты ранейшых часоў. Новы тып пісьменніка — дзяржаўнага дзеяча, палітыка і дыпламата— народжаны ў нашай краіне Вялікім Кастрычнікам.

У зборніках і цыклах вершаў аб заграніцы («Далёка ад дому» П. Броўкі, «Вершы пра Афрыку» П. Панчанкі, замежныя цыклы М. Танка, чэхаславацкая нізка М. Лужаніна, балгарская — Эдзі Агняцвет) своеасабліва вырашаецца і патрыятычная тэма, адна з асноўных у беларускай грамадзянскай лірыцы; шырокімі мазкамі падаецца характар лірычнага героя-сучасніка, чалавека высокіх ідэалаў, які ўзыходзіць на чужыя берагі, як друг і брат людзям працы, як пасланец сваёй зямлі.

Я не адзін цягнік загнаў да поту,
Каб толькі не спазніцца, каб паспець
На тую найвялікшую работу,
Дзе пыл і пот, дзе полымя і медзь...
...І вось таму, што я усмактаў з дзяцінства
Нястомны гул жыцця маёй зямлі —
Убачыць на планеце ўсё дачыста
Мяне гукаюць сёння караблі.
Мне хочацца пабыць між афрыканцаў,
Рукой крануць, паспрабаваць на зуб
Іх соль і хлеб, іх працу, песні, танцы,
Адведаць, дзе там ходзіць мінскі зубр;
Даведацца, каго абараняем,
Хто супраць нас, а хто супроць вайны;
Хто я — ці госць звычайны, ці радня ім,
Ці знаюць нас, ці вераць нам яны...

Так раскрывае П. Панчанка духоўны свет савецкага чалавека-вандроўніка, яго інтарэсы і пачуцці. Новая нізка вершаў П. Панчанкі — цэласная і каларытная. У ёй выявіліся лепшыя якасці творчай індывідуальнасці паэта: мяккасць і сіла пачуцця, гумар, сакавітая, свежая вобразнасць. Па гэтых вершах выразна відаць, што не экзотыка, а з'явы грамадскага парадку хвалююць паэта ў першую чаргу: пачуццё дружбы і давер'я, разуменне чалавека чалавекам, адносіны да савецкіх гасцей.

Паэт-вандроўнік ставіць перад сабой задачу — быць «хоць маленькім мостам» паміж чужымі берагамі і роднай зямлёй. Зыходная пазіцыя сама па сабе таксама наватарская, вельмі ўласцівая іменна для нашага часу. Гэта адзін з характэрных штрыхоў вялікай тэмы бацькаўшчыны, якая з'яўлялася асноўнай і ў паэме П. Панчанкі «Патрыятычная песня».

Нямала вершаў аб заграніцы напісаў М. Танк. Яго творчасць, надзвычай багатая і разнастайная, пашырае тэматычныя рамкі нашай паэзіі. Але справа не толькі ў яе размаху. На матэрыяле, здабытым у выніку вандраванняў, ён ставіць і вырашае агульначалавечыя, агульнагуманістычныя праблемы («Ave Maria» і інш.) і тым самым спрыяе выхаду беларускай літаратуры на сусветную арэну. Замежныя ўражанні зрабіліся элементам яго паэтычнага мыслення; яны свабодна і арганічна выкарыстоўваюцца ім у сённяшняй творчасці, надаюць сілу і паўнату вобразу лірычнага героя яго паэзіі, дапамагаюць распрацоўваць тэму дружбы народаў на канкрэтных прыкладах еднасці грамадскіх імкненняў і культур.

Цэлую кніжку вершаў («Далёка ад дому») напісаў за час свайго знаходжання ў Нью-Йорку П. Броўка. Самыя пранікнёныя і паэтычныя ў гэтай кніжцы — вершы аб Радзіме: «Калі на ўсход я ранкам гляну», «Чорны хлеб», «Сцяжынка пад Нью-Йоркам», «Жорны». Аб чым бы ні пісаў аўтар — аб бяздомным музыканце, аб вайсковым аркестры на Брадвеі, аб беднасці і багацці заморскай краіны — ва ўсім відаць жыццёвы і душэўны вопыт савецкага грамадзяніна, беларускага паэта з абвостраным пачуццём бацькаўшчыны. Ён радуецца сонцу, якое ідзе з-за акіяна, толькі што абагрэўшы родныя лясы і бары, пераносіцца ў думках у родныя мясціны, прыгадвае звычныя

# ЧАСОПІСЫ ў верасні

## ПАЭЗІЯ І КРЫТЫКА

Большасць аўтараў, якія выступаюць у верасднёўскіх нумарах часопісаў, — паэты. Яны вядуць, кажучы словамі Маякоўскага, гаворку пра час і пра сябе. З вялікай падборкай новых вершаў П. Броўкі пазнаёмяцца чытачы «Беларусі». Тут жа, побач, змешчаны вершы «Прысяга партыі» А. Бялевіча (ён жа выступае і ў «Полымі»), «Радугі ў верасні» М. Калачынскага. У «Полымі» з'явілася новая рубрыка — «Карта сямігодкі». Тут змешчаны вершаваныя цыклы С. Грахоўскага і В. Макарэвіча, напісаныя ў выніку паездак на будоўлі ў Полацку і Белаазёрску (Бярозаўская ДРЭС). «Музыка ў свеце» — верш А. Вялюгіна. Гэта своеасаблівы водгук на праект Праграмы роднай партыі. У гэтым жа нумары «Полымя» выступаюць з новымі вершамі А. Александровіч, Р. Няхай, Р. Хацкевіч, прапануюцца чытачам байкі Э. Валасевіча. У перакладзе Я. Семяжона друкуюцца вершы ўкраінскага паэта М. Нагнібяды.

Яго ж вершы ў перакладзе М. Аўрамчыка змяшчае і «Маладосць». Гэта падарунак выдатнаму паэту братняга народа, шчыраму сябру беларускай літаратуры, да яго пяцідзесяціґоддзя. У «Маладосці» чытачы пазнаёмяцца, акрамя таго, з лірычным рэпартажам Ул. Нядзведскага «У лясной старане», падборкай вершаў П. Макаля, вершамі Ул. Паўлава і В. Зыблева.

У «Полымі» на гэты раз няма раздзела крытыкі. Затое пад рубрыкай «Успаміны, дакументы, дзённікі» змешчан вялікі артыкул Г. Кісялёва «Францішак Багушэвіч і Ян Карловіч». Бібліяграфія прадстаўлена рэцэнзіямі В. Жураўлёва на кнігу М. Лупсякова «Прырэчча», С. Івановіча — на зборнік вершаў А. Лойкі «Задуменныя пералескі», Ю. Пшыркова — на манаграфічную працу А. Адамовіча аб беларускім рамане.

У «Маладосці» крытык Р. Бярозкін вядзе размову пра творчасць маладога паэта Р. Барадуліна.

Верасднёўскія нумары часопісаў неўзабаве выйдуць у свет. Што новае сказалі яны пра наша жыццё, наколькі ўдаліся аўтарам творы, змешчаныя ў іх? Пра гэта будуць ужо меркаваць крытыкі і чытачы.

# З КІНАКАМЕРАЙ ПА РЭСПУБЛІЦЫ

**Аб сустрэчы героя-касманаўта Германа Цітова на Унукаўскім аэрадроме ў Маскве расказвае першы сюжэт кіначасопіса «Савецкая Беларусь» № 24, які выпусціла на экраны гарадскіх кінатэатраў і сельскіх клубаў рэспублікі Мінская студыя навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў.**

**З другога сюжэта кіначасопіса—«У гонар XXII з'езда КПСС» — гледачы даведаюцца аб тым, што на Браслаўшчыне ўступіла ў строй новая міжкалгасная гідраэлектрастанцыя «Шлях да камунізма». У бліжэйшыя гады Браслаўшчына стане раёнам суцэльнай электрыфікацыі.**

**Стагадоваму юбілею Гродзенскай тытунёвай фабрыкі прысвечан кінасюжэт «Старэйшае прадпрыемства».**

**У кіначасопісе расказваецца таксама аб лагеры для аўтатурыстаў на магістралі Брэст — Масква, аб сустрэчы на першынство краіны па футболу паміж маскоўскай камандай «Дынама» і мінскай «Беларусь».**

# КОРАТКА

**□ Мінская гарадская нотна-музычная бібліятэка наладзіла для гледачоў кінатэатра «Перамога» чарговую музычную гутарку, прысвечаную буйнейшаму кампазітару нашага часу — лаўрэату Ленінскай прэміі Д. Шастаковічу.**

**Аб жыццёвым і творчым шляху Д. Шастаковіча расказаў музычны кансультант бібліятэкі М. Жухавіцкі. Для слухачоў быў наладжаны канцэрт з твораў кампазітара.**

**□ Усесаюзнае выдавецтва «Советский композитор» выпусціла з друку партытуру сюіты для вялікага сімфанічнага аркестра з музыкі беларускага кампазітара Генрыха Вагнера да балета «Падстаўная нявеста».**

